**№ 38 (1851)**
Серада, 3 сакавіка 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».
Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
Якуб КОЛАС

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — -4...-2, уначы — -7...-5, на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — -3...-1, без ападкаў, уначы — -5...-3, снег; у Гродне ўдзень — -4...-2, уначы — -6...-4, на працягу сутак — снег; у Віцебску ўдзень — -3...-1, снег, уначы — -14...-12, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — -1...+1, уначы — -4...-2, на працягу сутак — снег; у Магілёве ўдзень — -2...0, снег, уначы — -13...-11, без ападкаў.

*www.meteo.by*



ПУЛЬС

## Павышаны тарыфы на электраэнергію для насельніцтва

З 1 сакавіка ў Беларусі павышаны на 1,4 працэнта дзеючыя тарыфы на электрычную энергію, што адпускаецца для насельніцтва рэспубліканскімі унітарнымі прадпрыемствамі электраэнергетыкі Беларускага дзяржаўнага энергетычнага канцэрна. У адпаведнасці з пастановай Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь ад 25 лютага 2004 года № 50 "Аб індэксацыі тарыфаў на электрычную энергію для насельніцтва", тарыф на электрычную энергію для гарадскога і сельскага насельніцтва з 1 сакавіка складае 73,7 рубля за 1 кВт/г.; для гарадскога насельніцтва ў дамах, абсталяваных электраплітамі, — 53,5 рубля за 1 кВт/г.

Папярэдняя індэксацыя тарыфаў на электраэнергію для насельніцтва праводзілася ў лютым пастановай Мінэканомікі ад 30 студзеня. Тарыф на электрычную энергію для гарадскога і сельскага насельніцтва складаў 72,7 руб. за 1 кВт/г.; для гарадскога насельніцтва ў дамах, абсталяваных электраплітамі, — 52,8 рублей за 1 кВт/г.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## У Мінску адноўлены вулічны гандаль кветкамі і агароднінай

Як паведамілі БелаПАН у прэс-цэнтры гарвыканкама, гарадскімі ўладамі вызначана 246 месцаў для размяшчэння 727 латкоў па продажы садавіны і агародніны, аднак ад уладальнікаў гэтых латкоў запатрабавалі забяспечыць эстэтыку і ўстойлівасць сваіх месцаў гандлю, адзначылі ў выканкаме.

Нагадаем, што ў адпаведнасці з рашэннем Мінгарвыканкама ад 4 верасня 2003 года "Аб функцыянаванні аб'ектаў дробнарознічнай гандлёвай сеткі", на зіму гэтыя латкі з вуліц пераносяцца ў закрытыя павільёны плошчай да 60 квадратных метраў або ў іншыя магазіны.

**Лавінія АРЭШКА.**

## У сакавіку, як у лютым

Як паведамілі БелаПАН у Белгідраметцэнтры, сярэдняя тэмпература лютага аказалася на 1—3 градусы вышэй за сярэднюю кліматычную норму, а колькасць ападкаў склала 1,5—2, а ў асобных раёнах Мінскай, Віцебскай і Гомельскай абласцей — 2,5—3 месячныя нормы. У цэлым ападкаў выпала ад 60 да 100 міліметраў. Пры гэтым неабходна зазначыць, што 1 міліметр ападкаў прыкладна роўны 1 сантыметру снегу, які толькі што выпаў. У Віцебску і Оршы вышыня снежнага покрыва складае зараз 66—69 сантыметраў — абсалютны максімум за ўвесь перыяд назіранняў.

Паводле інфармацыі Белгідраметцэнтра, у найбліжэйшы час, нягледзячы на пачатак вясны, чакаецца паніжэнне тэмпературы. 3 сакавіка з паўночнага захаду прыйдзе цыклон, які прынясе снегапады і мяцеліцу. 3 сакавіка на працягу сутак 2—7, па поўначы да 11 градусаў марозу, у ноч на 4 сакавіка 10—15, месцамі да мінус 20, удзень ад 3 да 8 градусаў марозу.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Хто вінаваты ў гібелі трох ваеннаслужачых?

Мінская міжгарнізонная ваенная пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу па факце гібелі падчас нясення службы трох ваеннаслужачых в/ч 15325.

Як паведаміла маці аднаго з загінуўшых — гамяльчанка Ала Солнцава, салдаты загінулі падчас сутачнага нарада дзяжурства па ахове тэхнічнай тэрыторыі іншай часці — в/ч 04147 120-й асобнай механізаванай брыгады, размешчанай у Мінску. Сістэма пячнога ацяплення кантрольна-тэхнічнага пункта (КТП), у якім дзяжурылі салдаты, была няспраўная, у выніку ваеннаслужачыя атруціліся чадным газам. Пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу ў дачыненні да афіцэра, у чыё распараджэнне паступілі салдаты.

**Алена ПАСКАННАЯ.**

## Уточнение

Во вчерашнем номере газеты в публикации **"Белорусов считают. Но не как цыплят по осени"** по техническим причинам произошла опечатка. В таблице **"Динамика численности населения Беларуси"** в графе **"2003 год"** вместо **"9.098.500"** следует читать **"9.898.500"**. Таким образом, численность населения страны продолжает сокращаться.

ЧУЛІ?

# У Андрэя Клімава свой рух...

## Былы вязень цвёрда заяўляе пра свае намеры стаць прэзідэнтам Беларусі

У Мінску адбылася прэзентацыя новага палітычнага руху, які мае адпаведную назву — "Рух Андрэя Клімава". Галоўная мэта грамадскай ініцыятывы, як паведамляюць яе арганізатары, — перамога былога дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання **Андрэя КЛІМАВА** на прэзідэнцкіх выбарах 2006 года.

*"Беларускія ўлады не ў стане забяспечыць годнае жыццё сваім грамадзянам,* — сказана ў прэсрэлізе руху. — *Беларуская апазіцыя сёння не ў сілах пабароць уласныя амбіцыі і аб'яднацца нават перад парламенцкімі выбарамі. Мы не гатовы і надалей назіраць за тым, як улада крок за крокам сцірае Беларусь з карты свету, а ніхто ў краіне не перашкаджае гэтаму працэсу. У нас ёсць лідэр, за якім пойдуць многія. У нас ёсць добрая мэта. У нас дастаткова часу, каб да ўсіх данесці сваю пазіцыю. У нас ёсць усе неабходныя рэсурсы для вырашэння пастаўленых мэт і задач".*

Адзін з членаў аргкамітэта "Руху Андрэя Клімава" тэлежурналіст **Леанід МІНДЛІН,** не забыўшыся "ўкалоць" калег па дэмакратычным лагеры з **"5+"**, на неагучанае пытанне прысутных пра магчымы фальстарт у гонцы за прэзідэнцкае крэсла адказаў словамі класіка: *"Усялякая гіпотэза можа ажыццявіцца, калі яна дастаткова шалёная".*

Як паведаміў на прэзентацыі сам Андрэй Клімаў, *"мы гатовы дамагчыся паляпшэння жыццёвага ўзроўню беларусаў і змяніць становішча Беларусі на міжнароднай арэне".*

Пра свае стасункі з іншымі ўдзельнікамі дэмакратычнага руху Беларусі Клімаў выказаўся так: *"Мэта ў нас адна, метады розныя. Мы абавязкова знойдзем агульную мову, станем саюзнікамі і дасягнем мэты, якой мы ўсе прагнем".*

А. Клімаў таксама адзначыў, што ўжо зараз у кожным рэгіёне Беларусі ў яго ёсць прыхільнікі з ліку мясцовых актывістаў, бізнес-эліты і нават прэзідэнцкай "вертыкалі". Аднак пасапраўднаму прэзідэнцкая кампанія будзе разгорнутая ім толькі ў 2006 годзе. Але *"каб атрымаць перамогу праз два гады, працаваць патрэбна ўжо зараз"*, перакананы А.Клімаў.

У аргкамітэт "Руху Андрэя Клімава" таксама ўвайшлі журналіст і акцёр **Яўген АГУРЦОЎ,** прадпрымальнік **Леанід МАЛАХАЎ,** а таксама былы каардынатар незарэгістраванага маладзёжнага руху "Зубр" **Цімафей ДРАНЧУК,** які, дзеля таго каб дапамагчы Андрэю Клімаву стаць прэзідэнтам, кінуў справу каардынацыі "Зубра".

Пра свае матывы ўдзельнічаць у руху Клімава Ц. Дранчук сказаў наступнае: *"Андрэй Клімаў — малады, і таму ў яго няма комплексаў, няма боязі змагацца за ўладу, узяць яе і будаваць новую Беларусь. Ён выстаяў супраць сістэмы, супраць рэпрэсій, а значыць, — ён загартаваны".* Дранчук таксама заклікаў патэнцыяльных актывістаў "Руху Андрэя Клімава" *"не гуляць, як у 2001 годзе, па чужых правілах, а рабіць гісторыю краіны самім".*

Актывісты **"5+"** даюць пакуль стрыманыя каментарыі і наконт стварэння новага руху. *"Я вітаю любую ініцыятыву, якая бярэ на сябе адказнасць за тое, што яна робіць,* — паведаміў "Народнай волі" намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Аляксандр ДАБРАВОЛЬСКІ.** — *Але я бачу, што, каб нешта змяніць у краіне, трэба аб'ядноўваць сілы тых, хто хоча перамен. Гэта для мяне відавочна! Але працэс аб'яднання вельмі цяжкі. Даволі лёгка стварыць нешта новае, чарговае, нашмат цяжэй — аб'яднаць тыя сілы, тыя рэсурсы, якія ўжо ёсць. Я спадзяюся, што мы з Андрэем будзем працаваць разам — для дасягнення агульнай мэты".*

**Наталля ГАК.**
**Фота ByMedia.net**



ДОСЛОВНО

***Андрей КЛИМОВ:***

*— Я как раз сторонник независимости. Когда стану президентом, нас не будут вписывать ни в чей бюджет. У нас он будет свой собственный.* ***Как и свой бело-красно-белый флаг, свой герб "Пагоня", свое место в ООН. Мы добьемся места и в Совете Европы, и в Евросоюзе в равном стратегическом партнерстве с Россией.*** *Это — реально. И не надо бояться, что Россия "проглотит" Беларусь — у нее другие проблемы: удержать бы собственную федерацию от распада... И потом, у Беларуси и у России есть общие задачи: избавиться от социалистического прошлого и вернуться на достойные места в европейской и мировой политике. Нам делить нечего — у нас, к сожалению, одна кухня с теми же клопами, тараканами и немытой посудой. Будем мыть вместе. Но у каждого будет свой участок работы, что и явится гарантией нашей независимости.*

# Обращение

## к пенсионерам, инвалидам, участникам Великой Отечественной войны, ветеранам труда и Вооруженных сил



Уважаемые соотечественники!

Обратиться к вам вынуждает негативная реакция многих наших избирателей на недавние сообщения центральных российских СМИ о том, что в разгар зимы Россия на короткое время прекратила поставки газа в Беларусь. Кроме того, муссируются слухи о том, что "Газпром" намерен в ближайшее время вообще прекратить поставки газа в нашу страну.

Обескураженные люди задают вопрос: "Что произошло, чем мы провинились перед братьями-славянами, кому и за что мы должны?"

Эта обеспокоенность еще больше возросла после более чем странного заявления Лукашенко: *"Хочет Путин, чтобы мы платили эти деньги, то давайте соберем их от лекарств, чернобыльцев, от тех, кто гнил в окопах, неужели мы не соберем эти 200 миллионов долларов? Соберем и снимем эту проблему, и нами перестанут манипулировать и шантажировать".*

Позор, но Лукашенко хочет "собрать" эти 200 миллионов и еще 124 миллиона долларов США (текущая задолженность) именно с малообеспеченной категории граждан. Ведь многие из вас еще не успели пережить шок после резкого повышения тарифов на коммунальные услуги в 2002—2003 гг., живя сегодня впроголодь.

Зная бедственное положение миллионов семей, еще в прошлом году я подготовил и направил во все заинтересованные министерства проект закона, который предусматривает реальное снижение коммунальных платежей в три раза. Но власть к вашим просьбам и моим предложениям остается глуха.

Так кто же в очередной раз хочет вывернуть ваши карманы, переложив всю тяжесть финансовых проблем на полуголодных пенсионеров? Ведь Лукашенко хорошо известно, что все эти годы вы платили за газ почти вдвое больше, чем платила за него Беларусь России. Власти также хорошо известно, что государство должно поддерживать пенсионеров и инвалидов, а не наоборот.

Было бы справедливо и понятно, если бы Лукашенко забрал сотни миллионов долларов США (разница в цене на газ) у титенковых, журавковых и созданных ими многоликих структур, которые утаили или украли эти деньги. Однако вместо этого во всех грехах Лукашенко обвинил российское руководство, а деньги решил "взять" у самой бедной и, что парадоксально, самой преданной ему категории граждан.

Уважаемые ветераны, вы отдали все свои силы и здоровье, выполняя гражданский и воинский долг, вы по праву заслужили уважительное отношение к себе. Но нынешнюю обанкротившуюся власть уже ничто не остановит, она в который раз хочет забрать у вас последнее.

Не доверяя больше руководству Беларуси, помощник президента Российской Федерации Андрей Илларионов недавно предложил Лукашенко отправлять списки обездоленных белорусских ветеранов в российское Министерство труда и социальной политики, обещая им помочь.

Но мы убеждены, что Лукашенко никогда не пойдет на такой шаг.

Уважаемые ветераны, если вы в ближайшее время увидите, что вам в связи с увеличением цен на газ снова повысили тарифы на коммунальные услуги, направляйте нам свои заявления с просьбой о компенсации (на сумму повышения).

Мы обещаем вам составить такие списки и передадим их в Министерство труда и социальной политики РФ. О результатах обязательно проинформируем.

Заявления высылайте по адресу: 220010, г.Минск, ул.Советская, 11, Палата представителей Национального собрания Республики Беларусь, депутату В.Фролову.

**По поручению депутатской группы "Республика" депутат Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь Валерий ФРОЛОВ.**

## Сяргей Хамянтоўскі і Юрый Пракопаў пойдуць у суд...

Іск рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Беларускі Хельсінкскі камітэт" і яго кіраўніка Таццяны Працька да Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі прыняў да разгляду суд Першамайскага раёна горада Мінска.

Як паведаміла БелаПАН Таццяна Працька, 2 лістапада 2002 года на Першым нацыянальным тэлеканале ў праграме "У цэнтры ўвагі" быў паказаны негатыўны сюжэт аб БХК і праваабаронцах. У прыватнасці, гаварылася аб тым, што камітэт атрымаў грант у 900 тысяч долараў ЗША па праграме TACIS і невядома на што яго выдаткаваў. 29 лютага гэтага года таксама ў перадачы "У цэнтры ўвагі" БХК абвінавацілі ў нявыплаце падаткаў, а таксама прывялі недакладныя звесткі аб даходах супрацоўнікаў БХК і маёмасці Таццяны Працька.

У сувязі з гэтым Рада БХК звярнулася да кіраўніцтва тэлерадыёкампаніі з прапановай прынесці прабачэнні і абвергнуць недакладныя звесткі, што ганьбяць дзелавую рэпутацыю БХК, а таксама гонар і годнасць яго кіраўніка. Аднак кіраўніцтва НДТРК ад гэтай прапановы адмовілася.

Паводле слоў Т.Працька, звесткі, выкладзеныя ў перадачах, не адпавядаюць рэчаіснасці. Грантаў у 900 тысяч долараў РГА БХК ніколі не атрымлівала хаця б па той прычыне, што такіх не існуе. Па грашовых сродках, атрыманых у рамках праграмы TACIS, вядзецца строгая фінансавая справаздача. Нават падатковая інспекцыя, што праводзіла нядаўна буйнамаштабную праверку БХК, не выявіла нямэтавага расходавання сродкаў. Пры гэтым кіраўнік РГА "Беларускі Хельсінкскі камітэт" зазначыла, што перадачы на БТ наўрад ці выкліканы ўзмоцненым фіскальным прэсінгам арганізацыі. "Хутчэй за ўсё такі ціск на нас звязаны з дзейнасцю БХК у цэлым", — зазначыла Т.Працька.

Разгляд іску ў судзе прызначаны на 17 сакавіка. Адказчыкам па іску прызнана Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія, вядучы тэлепраграмы "У цэнтры ўвагі" Сяргей Хамянтоўскі і аўтар праекта Юрый Пракопаў.

**БелаПАН.**

ЭКСПЕРТИЗА

# Зажмурившись, сельские проблемы не решишь

Зима нынче выдалась снежная, по всему видать, затяжная. Но приближение весны чувствуется не только в колебаниях ночной и дневной температур воздуха, но и в сообщениях СМИ о подготовительных к весенне-полевым работам мероприятиях, которые проводят, складывается такое впечатление, все — от президента страны до бригадира, от коммерческого банка до индивидуального предпринимателя. А еще набирает практическое воплощение инициатива по передаче предпринимателям в управление безнадежных хозяйств. В частности, еще до начала посевной столичным частным фирмам должны быть переданы несколько хозяйств Минской области.

Короче, как повелось: всем миром навалимся и отсеемся. А что дальше? На этот вопрос должен ответить очередной указ о мерах по совершенствованию работы сельхозорганизаций, который, говорят, должен быть подписан А. Лукашенко на этой неделе. В разработанном правительством документе предусматриваются меры по финансовому оздоровлению хозяйств, привлечению инвестиций путем передачи их эффективным собственникам. Ознакомившись с ним, Лукашенко, как сообщило Белорусское телеграфное агентство, поначалу засомневался: *"Уж слишком он похож на те, которые мы принимали в прошлые годы".* Согласимся с ним. По названию, по крайней мере, его и не отличишь от предыдущих.

В них тоже речь шла о мерах. К чему пришли, об этом говорит статистика.

Финансовые результаты сельхозорганизаций в прошлом году стали еще более неудовлетворительными, хотя казалось, что это и невозможно. На 1 декабря 2003 года 61,2% хозяйств были убыточными, а рентабельность их в январе—ноябре составила минус 0,1%. И это при том, что с января по декабрь АПК из всех источников госфинансирования получил 1,2 триллиона рублей (в среднем по 540 миллионов рублей на одно хозяйство), что соответствует трети всей денежной выручки, полученной от реализации их продукции.

Помимо этого АПК оказывалась и косвенная поддержка (отсрочки погашения задолженности перед всеми заимодавцами, бюджетом и фондом соцзащиты) на сумму свыше 415 миллиардов рублей. Сумма просроченной кредиторской задолженности сельхозпредприятий достигла 1 триллиона рублей (1/5 всей кредиторской задолженности по народному хозяйству), за долг за энергоресурсы — 608 миллиардов (18,6% всех таких долгов по стране).

Понятно, что ни при какой погоде убыточники эти деньги не вернут. Поэтому Лукашенко разразился гневной тирадой на их счет: *"Все, точка, хватит! С этого дня это надо контролировать железно".* Будто бы прежде не контролировали. Даже КГБ поучаствовало, отметив, правда, в аналитической записке, что ценных указаний разными инстанциями спускается такое количество, что председатели перестают на них реагировать. Да и вообще за свои места не очень держатся. К тому же за последние годы многие сильные руководители, по словам директора БелНИИЗК Михаила Кадырова, либо ушли из села, либо собираются уходить, либо "не доехали до него".

*(Окончание на 2-й стр.)*

НА ШАЛЯХ ФЕМІДЫ

# Канстытуцыйны суд Беларусі вырашыць, адпавядае смяротнае пакаранне заканадаўству ці не адпавядае

1 сакавіка на адкрытым пасяджэнні ў Канстытуцыйным судзе (КС) Беларусі разглядалася адпаведнасць Канстытуцыі норм Крымінальнага кодэкса, якія прадугледжваюць прымяненне ў якасці выключнай меры смяротнае пакаранне.

Ініцыятарам разгляду стала Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, і, у прыватнасці, дэпутат Андрэй Нарэйка. На яго думку, прымяненне смяротнага пакарання супярэчыць шэрагу артыкулаў Канстытуцыі, што гарантуюць права на жыццё, забарону на бесчалавечныя адносіны і катаванне, а таксама парушае свабоды грамадзян. Акрамя таго, прымяненне смяротнага пакарання не адпавядае многім міжнародным прынцыпам і стандартам.

Як адзначыў А.Нарэйка, у 1996 годзе на рэферэндуме беларускі народ прагаласаваў за захаванне смяротнага пакарання, аднак тады яму не было альтэрнатывы. Зараз жа, паводле слоў дэпутата, усё больш шырокае прымяненне атрымлівае пажыццёвае зняволенне: калі ў 1998 годзе да такога пакарання былі прысуджаны ўсяго два чалавекі, то ў 2003 годзе — 96.

Парламентарый таксама адзначыў, што ў Канстытуцыі агавораны часовы характар прымянення смяротнага пакарання, гэта значыць да моманту яго адмены, аднак механізм гэтай адмены нідзе не прапісаны. Таму трэба больш дакладна вызначыць сумяшчальнасць заканадаўчых актаў, лічыць ён.

У цэлым жа, паводле слоў А.Нарэйкі, узнікла неабходнасць вызначыцца: або адмяніць смяротнае пакаранне, або больш дакладна сфармуляваць характар яго прымянення і магчымасць аб'яўлення мараторыя на гэтае пакаранне.

Апанентам Андрэя Нарэйкі на пасяджэнні Канстытуцыйнага суда выступіў яго калега, намеснік старшыні пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па нацыянальнай бяспецы Іван Кібак. Ён заявіў, што смяротнае пакаранне адмяняць заўчасна. Паводле яго слоў, з гэтым меркаваннем згадзіліся ўсе члены камісіі па нацыянальнай бяспецы, акрамя дэпутата Фралова.

І.Кібак прывёў звесткі сацдаследаванняў, згодна з якімі 50 працэнтаў зняволеных, якія адбываюць пажыццёвы тэрмін, самі аддалі б перавагу смерці, а дзве трэці забойцаў на пытанне "Што для вас забіць чалавека?" адказвалі: "Мне гэта — як шклянку вады выпіць". У той жа час назваць арганізацыю, якая праводзіла гэтае сацапытанне, дэпутат не змог.

На пасяджэнні таксама выступіла начальнік Галоўнага экспертна-прававога ўпраўлення сакратарыяту Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Наталля Карповіч. Яна прывяла звесткі, згодна з якімі 35 краін свету наогул заканадаўча не прадугледжваюць смяротнае пакаранне; 18 дзяржаў прадугледжваюць, але толькі ў ваенны час; каля 20 краін заканадаўча захоўваюць магчымасць вышэйшай меры пакарання, але на працягу апошніх 10 гадоў яе не выкарыстоўваюць; каля 100 краін прымяняюць смяротнае пакаранне за крымінальныя злачынствы.

У той жа час, аналізуючы праблему, Н.Карповіч адзначыла, што "няма калізій паміж нормамі права на жыццё і пакараннем смерцю, як няма калізій паміж Крымінальным кодэксам і Канстытуцыяй".

Канчатковыя высновы зробіць Канстытуцыйны суд. Плануецца, што сваё рашэнне па гэтым пытанні КС абвесціць ужо на гэтым тыдні.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

Народная Воля

3 САКАВІКА 2004 г.

МОНИТОРИНГ

*Владимир ПОДГОЛ*

# Теленамек

В то время как 24 февраля вечером все российские СМИ сообщали и обсуждали отставку правительства, почти то же самое происходило в президентских СМИ Беларуси. Но как?!

По ОНТ и БТ отряды толкователей президентской идеологии хором долдонили о том, что Путин отправил Касьянова в отставку за перекрытие газа для Беларуси. При этом высказывали возмущение аморальным поступком лидера России, для которого доллар затмил братскую дружбу.

Затем пресс-секретарь президента Беларуси Н.Петкевич выводила на политическую сцену мнение президента Беларуси и сообщала о его содержании:

*Никто, кроме Путина, не мог перекрыть газ в 20-градусный мороз!*

В итоге у зрителя неизбежно возникала мысль, что на самом деле должен был уйти в отставку... Путин!

То, что показанное по ОНТ и БТ — не случайное совпадение, а подготовленный удар по Путину *в форме теленамека* от Лукашенко белорусскому народу, доказывает идеальная синхронность сценариев обсуждения отставки правительства России по ОНТ и БТ. При этом следует учесть, что БТ и ОНТ конкурируют между собой настолько, что некоторые сотрудники при встречах не здороваются...

А. Лукашенко можно понять. В течение выходных в СМИ России где намекали, а где и открытым текстом заявляли, что в братьях у россиян оказался последний диктатор Европы с огромнейшим личным состоянием и неуемным желанием еще более увеличить его, отбирая газовые крохи у российских чернобыльцев и ветеранов, гнивших в окопах. Российские журналисты представили с телеэкранов запахи приближающейся "розовой революции" в Минске и несколько призраков белорусских Саакашвили, которые бродили по Риге и возле Белого дома в Вашингтоне...

Интересно, поздороваются ли когда-нибудь два президента после таких намеков и искреннего желания Александра Григорьевича собрать 200 млн. долларов для Путина?

Хотя не это главный вопрос. Какой?

Отношения между Путиным и Лукашенко достигли такой стадии, когда Лукашенко *уже не может* устранить президента России, а Путин — пока *не хочет* отправить в отставку президента Беларуси. А может быть, тоже пока *не может?*

**P.S.** Кремль все-таки ответил намеком на намек.

*"Пресс-секретарь Путина Алексей Громов заявил по этому поводу: "Госпожа Петкевич сильно ошибается... контакты с Беларусью в вопросах поставок газа ведутся на уровне хозяйственных субъектов... А кто морозит белорусский народ, кажется, и так понятно".*

*(Проект "Аналитический мониторинг СМИ". Сайт a-klimov.com)*

ЭКСПЕРТИЗА

# Зажмурившись, сельские проблемы не решишь

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Впрочем, не только в этом заковыка. Со всех высоких трибун превозносится аграрная политика мудрого белорусского руководства, которое не допустило развала крупных товарных хозяйств. Но в экономическом смысле убыточные хозяйства есть самые настоящие развалины. Если всей их товарной продукции не хватает для покрытия собственных расходов, то их нельзя считать товарными. Они пигмеи по сравнению с любым фермерским хозяйством, которое оплачивает все свои долги и практически не пользуется поддержкой государства. Вот и выходит, что вся эта политика оказалась провальной.

Ввиду очевидности ответа не спрашиваем: "Кто виноват?" Спрашиваем: "Что делать?" По мнению Лукашенко, прежние долги можно списать, но больше ни-ни. Если не можешь заплатить за электроэнергию, за газ, то топи дровами. Кто не знает, что электроэнергия — это свет? Выходит, для финансового оздоровления деревни ей надо перейти на прадедовскую лучину. Так по Лукашенко и выходит. Потому что разве найдешь среди наших бизнесменов те полторы тысячи эффективных собственников, которые могли бы оживить эти экономические развалины. Тем более, что им с первого дня придется обеспечивать все текущие платежи. Тем более, что, по мнению Лукашенко, этим новым собственникам практически бесплатно передается земля, средства сельхозпроизводства, техника, рабочая сила. А это стоит огромных денег. Не станем ловить главу государства на слове, хотя он прекрасно знает, чего стоит нынешняя колхозная техника. Но вот о *"практически бесплатной передаче рабочей силы"* новым латифундистам стоит подумать. Ведь получается, что из государственных крепостных крестьяне становятся помещичьими, в такой же мере бесправными. Были практически бесплатной рабсилой, таковыми и останутся?

В общем, вопросов много и шум большой. Но в этом общем хоре практически не слышно собственно крестьянских голосов. То есть они говорят, иногда громко, но власть их не слышит. Даже в непосредственном общении, как это было на 9-м республиканском съезде фермеров. Невралгическим пунктом этого форума стал спор по поводу намерения власти внести в законодательство изменение, ограничивающее земельные права фермеров арендой земельных участков вместо ныне существующего права иметь их в пожизненной собственности и передавать по наследству. Вот такие крайне несвоевременные бюрократические инициативы, которые никак не способствуют выполнению программ "возрождения села".

И без того в фермеры идут немногие, а после такого ограничения в правах желающих самостоятельно хозяйствовать на земле, боимся, поубавится. А кадровый селянский потенциал не пополнишь за счет переселения в пустующие деревни семей городских безработных, на что бюджет выделяет значительные суммы. Уж если человек не смог реализовать себя в городе, где шансов для этого гораздо больше, не станет он работать и на селе.

Вообще, решая вопросы социального возрождения села, надо держать в памяти, что белорусские "вёскі" давно уже перестали быть цветущими и многолюдными, как это изображалось в советских кинофильмах на сельскую тему. Сегодня в большинстве из них картинку определяют пустующие и заколоченные дома, полуразвалившиеся хозяйственные постройки. Не надо на это закрывать глаза. Зажмурившись, проблемы не решают. Для определенной категории людей, а это и есть фермеры, жизнь на земле была, есть и останется привлекательной. Но таких в странах индустриальных, к каким с определенными оговорками можно причислить и Беларусь, не бывает много. Поэтому будущие сельские поселения, скорее всего, окажутся хуторскими, если хотите, фермерскими. Или никакими. Заросшими бурьяном развалинами.

Могут сказать: пужаем! Но вот о чем говорит Минстат: в январе текущего года по отношению к январю прошлого производство в частном секторе сократилось на 6,8%, поголовье коров — на 10%, свиней — на 6%. А без коровы, тем паче поросенка, жизнь в сельском доме умирает. При таких темпах окончательный срок вымирания можно определить достаточно точно — скоро.

Прав был поэт. Есть только миг между прошлым и будущим. И этот миг называется жизнь. А мы этого не учитываем. Идут жаркие дискуссии, разрабатываются разные подходы, будто бы у нас впереди вечность. А это непродуктивно, а главное — непорядочно. Ведь таким образом мы свою миссию наведения порядка на земле перекладываем на плечи своих потомков.

Что они скажут о нас? Хорошо, если останутся в рамках приличий...

**Константин СКУРАТОВИЧ.**

ЭКСКЛЮЗІЎ

*Амаль два гады таму па вуліцы Пляханава, што ў сталічным раёне "Серабранка", адчыніла свае дзверы невялічкая, але вельмі прыгожая каталіцкая каплічка Святога Яна Хрысціцеля. "Побач з каплічкай, — спадзяецца 37-гадовы ксёндз **Ігар ЛАШУК**, — у бліжэйшыя гады будзе пабудаваны вялікі і цудоўны касцёл, і гэта будзе першая падобная пабудова за апошнія сто гадоў". Ён упэўнены, што грошы на "будаўніцтва стагоддзя", у рэшце рэшт, знойдуцца і ўсё будзе добра, калі, канешне, дзяржава прыхільна да гэтага паставіцца.*

*Ксёндз Ігар аказаўся не толькі надзвычай цікавым суразмоўцам, але і чалавекам з цвёрдай грамадзянскай пазіцыяй. Сёння з яго думкамі пра веру, пра адносіны нашых чыноўнікаў, пра сэнс дзяржаўнай ідэалогіі мы знаёмім чытачоў "Народнай волі".*

***Ігар ЛАШУК**, настаяцель рымска-каталіцкага прыходу Святога Яна Хрысціцеля:*

# «Хрысціянства — адзіная і вечная ідэалогія»

**— Два ці тры гады таму Вы, спадар ксёндз, асвяцілі ікону Маці Божай Карміліцы з Раўбіч. І я ведаю, што Вы разам з парафіянамі... з паслядоўнікамі ведзяце ўжо доўгія гады барацьбу за касцёл у Раўбічах, у якім зараз месціцца Музей народнай творчасці, — з тым каб вярнуць яго вернікам...**

— Пасля той вялікай падзеі, якую Вы ўзгадалі і якая адбылася ў 2001 годзе, мы яшчэ неаднаразова звярталіся да ўлад Рэспублікі Беларусь, да прэзідэнта. Я быў нават падчас выбарчай кампаніі на прыёме ў Мікалая Чаргінца, які ў 2001 годзе быў кіраўніком передвыбарчага штабу Лукашэнкі. Але, на жаль, ніякага адказу я не атрымаў да гэтага дня. Былі паўторныя звароты зноў да пана прэзідэнта і ўрада...

**— І што ў адказ?**

— Стандартныя пісьмы з дзяржаўнага Камітэта па справах рэлігій: *"пасля кансультацый з Міністэрствам культуры, згодна з заканадаўствам РБ, былыя касцёлы, якія выкарыстоўваюцца для спраў культуры, не падлягаюць вяртанню".* Калі ім надакучыць калі-небудзь карыстацца касцёламі то мы, прадстаўнікі каталіцкай царквы, натуральна, маем першынства ў гэтай чарзе, каб атрымаць іх зноў. Апошнія адказы ад улад такія: мы, маўляў, гатовы вярнуць вам касцёл, але вы нам пабудуйце альбо купіце памяшканне ў Мінску для музея. Патрабаванне нібы лагічнае, але хто рабіў нейкія кампенсацыі каталікам, калі камуністы выганялі іх з касцёлаў? Нас не запыталі, дзе мы будзем маліцца і што мы будзем рабіць без касцёла.

Каталікоў з касцёла ў Раўбічах выгналі ў 20-я гады, а потым занеслі туды граблі ды бароны, іншую сельскагаспадарчую тэхніку. Дзякуй Богу, што сам касцёл не знішчылі. Калі будавалі спартыўны комплекс у Раўбічах, я ведаю, улады хацелі наогул узарваць касцёл. Але сёння мы перакананыя, што гэта цуд Божы, а не чыноўнікаў, якія так любяць аб гэтым хваліцца.

Дарэчы, касцёл у Раўбічах не адзіны аб'ект нашага змагання. Колькі яшчэ касцёлаў у Беларусі, якія занятыя рознымі дзяржаўнымі ўстановамі: напрыклад, касцёл святога Юзэфа і кляштар бернардзінцаў па вуліцы Кірыла і Мяфодзія ў Мінску, дзе зараз знаходзіцца архіў і камендатура, манастыр базыльянаў, дзе зараз Дом прафсаюзаў, касцёл Святой Тройцы і святога Роха і каталіцкі манастыр езуітаў... Зразумейце, мы змагаемся не за чужое, мы змагаемся за нашае. Богу — Богава, а Цэзару — Цэзарава.

**— Ходзяць плёткі, што кардынал Свёнтак хоча ў Раўбічах зрабіць сваю рэзідэнцыю...**

— Свет плёткамі поўніцца. Гэта звычайная парафія з ацалелым касцёлам, які, згодна з усімі законамі справядлівасці, павінен быць вернуты вернікам.

**— Спадар ксёндз, Вы многа абабілі парогаў кабінетаў цяперашніх чыноўнікаў. Ці можаце даць ім адну галоўную характарыстыку?**

— Бездапаможнасць. Не хочуць нашы чыноўнікі ніякім чынам "свяціцца", баяцца прымаць любыя рашэнні, нават невялічкія.

**— Скажыце, калі ласка, як Вам удалося пабудаваць тады такую прыгожую каталіцкую каплічку ў Серабранцы на вул.Пляханава, побач з крамай "Лакі-фарбы"?**

— Каплічку пабудавалі самі вернікі горада Мінска на свае ахвяраванні, трохі дапамаглі з-за мяжы. Дарэчы, гэта адзіны новы каталіцкі храм, які быў пабудаваны ў нашай сталіцы. Сёння нам вельмі цяжка атрымаць зямельныя надзелы ў Мінску. Цвёрдая пазіцыя чыноўнікаў — не даць каталікам зямлі. Я не ведаю, чаму гэта так робіцца. Нават пратэстанты пабудавалі намнога больш, чым каталікі, а я ўжо не кажу пра праваслаўных. Вы ведаеце, што на сённяшні дзень каталіцкі касцёл — гэта адзіная арганізацыя ў Беларусі, якая збірае найбольшую колькасць людзей кожную нядзелю? У Беларусі шмат каталікаў. І хто гэта ігнаруе, робіць гэта дарэмна.

**— А дзяржава дапамагла Вам хоць чымсьці ў будаўніцтве?**

— Ніводнай капейкі. Наадварот, калі ў чарговы раз вырас падатак на зямлю, дзяржава адмовілася даць нам хоць нейкую скідку. Нас распранаюць, як кажуць, па поўнай праграме. У мінулым годзе мы павінны былі плаціць да 700 тысяч рублёў у месяц у якасці падатка на зямлю. Зараз вось увялі новы падатак — на нерухомасць, знялі льготу. Кожны месяц атрымліваецца каля 300 тысяч рублёў іншых разнастайных падаткаў. А да гэтага дадайце свет і цяпло. Я б лепш гэтыя грошы ўклаў у развіццё маладзёжнага цэнтра, каб хлопцы з дзяўчатамі не бадзяліся па вуліцах, а заняліся якой-небудзь добрай справай. Тут, пры каплічцы, працуе маладзёжны цэнтр, дзе дзеці і моладзь — і не толькі каталіцкая — прыходзяць і праводзяць вольны час, гуляюць у спартыўныя гульні. І за гэта ніхто не плаціць ні граша, усё за кошт парафіі.

Давайце задумаемся! Тыя бабулі, што ўсё жыццё сумленна працавалі на дзяржаву і зараз ходзяць у касцёл, сёння вымушаны плаціць яшчэ адзін падатак гэтай дзяржаве, зноў утрымоўваць гэтую дзяржаву. Грэх! Такі цяжкі грэх! Хачу сказаць тым чыноўнікам, хто нас "абдзірае": вы не ў касцёла забіраеце, вы забіраеце ў людзей, у вернікаў.

**— Але ж касцёл, па сутнасці, працуе на дзяржаву...**

— Так! Мы робім усё магчымае, каб людзі сталі лепшымі. Мы ж не працуем на Расію, Польшчу альбо Амерыку, мы працуем на беларускую дзяржаву, на Беларусь! Мы вучым людзей тут, у Беларусі, каб яны не кралі, каб не забівалі, каб не пралюбадзейнічалі, каб шанавалі бацькоў сваіх. І дзяржава павінна, натуральна, быць зацікаўлена ў гэтым! А што ў рэальнасці?

Сёння дзяржава нас літаральна душыць. Я трачу амаль увесь час не на важныя справы, а на тое, каб бегаць і збіраць капейкі, якія пойдуць на падаткі дзяржаве.

**— Я бачыў план вялікага, вельмі прыгожага касцёла, які мусіць быць пабудаваны побач з гэтай каплічкай. Няўжо такая казка можа стаць рэальнасцю?**

— Можа. І такі касцёл можа быць пабудаваны выключна на грошы нашых вернікаў.

**— Шмат хто з чыноўнікаў любіць пастаяць са свечкай у царкве ці ў касцёле. Але пры гэтым многія з іх не саромеюцца амаль адкрыта парушаць запаведзі хрысціянства... хрыстовыя. Гучныя крымінальныя справы ў Беларусі ідуць касяком, ніхто да гэтага дня не пакаяўся за забітых апазіцыйных палітыкаў. Рэлігія стала своеасаблівай модай у вышэйшых эшалонах улады, але амаль ніхто не ставіцца да яе шчыра. Вы з гэтым згодны?**

— Што тычыцца зніклых людзей, то мы молімся, каб яны знайшліся, каб хоць якая вестка пра іх з'явілася. Я ведаю, баліць кожнай маці, баліць кожнай жонцы, баліць сваякам. Гэта вялікае гора і роспач, калі нават на магілу прыйсці не можаш. Я выказваю свае шчырыя спачуванні гэтым людзям у іх бядзе — і Захаранкам, і Красоўскім, і Завадскім, і Ганчарам. Асабліва ў гэтай сітуацыі цяжка маці. Няма большай бяды, калі маці хавае сваё дзіця, альбо не ведае яго лёсу. І няхай таго, хто ўчыніў гэтыя злачынствы, асудзіць Бог. Што тычыцца чыноўнікаў, то некаторыя з іх, канешне, прыходзяць у касцёл. Але большасць з іх прыходзіць усё ж такі ў праваслаўную царкву. Касцёл не модны сярод чыноўнікаў. А што тычыцца моды стаяць са свечкамі, то, я лічу, яна ўжо праходзіць.

**— Можа, таму, што дзяржаўнай аб'яўлена праваслаўная рэлігія?**

— Так. Гэта не сакрэт, што каталіцкі касцёл у законе аб веравызнаннях знаходзіцца, так скажам, на другім плане. Дзяржава падтрымлівае менавіта праваслаўную рэлігію.

**— Але праваслаўныя не заўсёды былі ў Беларусі большасцю...**

— Так, да трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе з хрысціян тут жылі амаль адны каталікі. Любое паўстанне за незалежнасць ад Расійскай імперыі ў XVIII стагоддзі было заўсёды прычынай знішчэння каталікоў. А колькі каталіцкіх касцёлаў было зачынена пасля паўстання Кастуся Каліноўскага ў 1863 годзе!.. У кніжках можаце пачытаць, якія жудасныя рэчы адбываліся — як прыязджалі казакі, як білі нашых людзей, як цэлымі вёскамі вывозілі ў Сібір, як прымушалі мясцовае насельніцтва пераходзіць у праваслаўе, як поп пхаў сілком прычасце ў вусны чалавеку. Жудасных гісторый "добраахвотнага" пераводу беларусаў у праваслаўе шмат. А колькі было забіта святароў!.. І ўсё дзеля чаго? Каб споўніць волю цара. Бо пра Божую волю тут нават і гаворкі не было. Гэта ўжо гісторыя, хоць і жудасная, але нам трэба цяпер сумесна жыць, і трэба шмат знайсці сілы і волі, каб дараваць адзін аднаму. Бо верым мы ў аднаго Бога. А Хрыстос вучыць пра адзінства і міласэрнасць. Трэба вясці дыялог, трэба пазнаваць духоўныя каштоўнасці адзін аднаго.



Ксёндз Ігар Лашук.

Да сённяшняга дня каталіцкаму Касцёлу ў Беларусі нялёгка, мы адчуваем вялікі недахоп святароў, мы нават вымушаны запрашаць іх з Польшчы ці з іншых краін.

**— Чуў, што на іх аказваецца вялікі ўціск з боку дзяржавы...**

— Асабліва гэта адчуваецца ў Гродзенскай вобласці — з боку мясцовага выканаўчага камітэта. Там ёсць такі пан Папоў, які адказны за гэты ўціск. Ён забараняе нават святару з замежжа паехаць да іншага святара, — такога не было нават пры цары...

**— Як Вы ставіцеся да так званай дзяржаўнай ідэалогіі?**

— Хрысціянства — адзіная і вечная ідэалогія. Бо гэта справа Божая, няма нічога больш дасканалага. Ды і што чалавек можа прыдумаць дасканалага? Што тычыцца новай дзяржаўнай ідэалогіі, то скажу так: інфармацыйная прастора ў сённяшнім свеце настолькі развіваецца, што немагчыма стварыць у Беларусі нейкае інфармацыйнае гета. Тым больш у нашай краіне, якая знаходзіцца ў цэнтральнай частцы Еўропы, а не на востраве ў акіяне. Не трэба будаваць нейкіх штучных муроў і агароджваць сябе!

**— Але ў дзяржаўных кабінетах зараз з дзіўнай шпаркасцю бегаюць з гэтай новай ідэалогіяй. Мусіць, навучыліся ў камуністаў?**

— Яны павінны зразумець: прыйдзе іншы да ўлады, і зноў усё зменіцца. Не можа быць чалавек вечны ва ўладзе. Калі намі кіраваў Брэжнеў, многія думалі, што калі ён памрэ, то будзе канец свету. Не было канца свету, і ні пасля каго іншага не будзе канца свету. Трэба жыць і кіраваць так, каб нас помнілі



Такі касцёл можа быць пабудаваны ў Мінску

нашыя нашчадкі. Прычым добрым словам, а не праклёнам.

**— Ксёндз Ігар, я чуў некалькі Вашых пропаведзяў — у касцёле яблыку не было дзе ўпасці. Вы надзвычай папулярны. Ці не таму, што маеце свой погляд на жыццё і можаце вельмі папулярна выкласці прапісныя ісціны? Ці ёсць у Вас нейкі свой метад?**

— Мой метад просты — не гаварыць людзям пра абстрактныя рэчы, а растлумачваць чалавеку жыццё Хрыста, яго запаведзі на канкрэтных прыкладах і паказваць, як Евангелле людзі могуць прымяніць у жыцці. Аснова Евангелля — гэта зварот да людзей, адвярніцеся ад зла, павярніцеся да дабра. І сёння чалавек можа так зрабіць, але ён павінен быць веруючым. Толькі веруючы чалавек здольны на гэта, і толькі тады, калі Бог для яго ёсць найвышэйшы сэнс. Няверуючыя людзі проста не бачаць сэнсу рабіць дабро, у іх няма найвышэйшага сэнсу, таму што чалавек хоць і істота Божая, але недасканалая і не можа стаць найвышэйшым сэнсам.

**— 22 мая 2004 года а 12-й гадзіне тут, у серабранскай каплічцы хрышчоныя каталікі могуць прыняць сакрамент бежмавання (ці мірапамазання ў праваслаўных) ад кардынала Казіміра Свёнтака. Распавядзіце, калі ласка, нашым чытачам падрабязней пра гэты сакрамент, ці па-беларуску "таінства". Што гэта такое?**

— Бежмаванне — гэта сакрамент узмацнення ў веры. У праваслаўнай царкве мірапамазанне вернікі прымаюць аднačасова з хрышчэннем. У каталіцкім касцёле — з 14 гадоў. Чаму? Таму што ў такім узросце чалавека можна лепей падрыхтаваць, каб ён больш свядома зразумеў сваю веру. Калі задумацца, адна справа — чытаць кнігу, другая — разумець гэтую кнігу, трэцяя — жыць гэтай кнігай. Я маю на ўвазе Біблію. Хто не паспеў прыняць гэты сакрамент у падлеткавым узросце, можа зрабіць гэта зараз, прайшоўшы папярэднюю падрыхтоўку — кожную суботу а 18-й гадзіне ў нашай капліцы.

Я хацеў бы яшчэ падкрэсліць адну рэч: шмат хто гаворыць — я верую ў душы. Але гэта не вера, гэта насмешка над верай! Такі чалавек толькі думае, што ён верыць. Веру ж трэба пазнаваць. Верай трэба жыць. Каб збавіцца, аднаго ўмення перахрысціцца недастаткова.

**— 25 лютага ў каталікоў пачаўся Вялікі Пост, які працягнецца да Вялікадня. Любое баляванне ў гэты перыяд Вы неяк назвалі "д'ябальскімі скачкамі". А што рабіць вернікам, калі ў маці ў гэты час дзень нараджэння альбо лепшы сябар запрасіў на вяселле?**

— Наконт вяселляў скажу: ніколі ў нашай гісторыі людзі вяселляў у Вялікі Пост не спраўлялі. Ды якое будзе благаслаўленне Бога гэтай сям'і, калі яна распачынае сваё сумеснае жыццё з граха? Я думаю, што той, хто вырашыў звязаць сваё жыццё з іншай асобай, можа пацярпець да Вялікадня. У яго ёсць час, перад ім усё жыццё! Гэта не праблема. Таксама прыпадае на Вялікі Пост і свята 8 Сакавіка. Мы заўсёды молімся ў гэты дзень у касцёле за жанчын, віншуем іх. Калі ў кагосьці дзень нараджэння, то можна павіншаваць імянінніка, заказаць за яго святую імшу. Але нельга чыніць гучных забаў — плясак, дыскатэк, разнастайных баляванняў з песнямі. Гэта прынцыпова важна.

**Гутарыў Алесь СІЛІЧ.**
**Фота аўтара.**

БЕЗ ОБИНЯКОВ

# Ответьте народу!

Обращаюсь в "Народную волю", как в авторитетное издание Республики Беларусь. Обращаюсь по важному вопросу, требующему ответа специалистов и юристов.

По РТР из уст спикера России прозвучали обвинения Беларуси в торговле газом, приносящей на некие спецсчета миллионные прибыли. Если накопление и расход миллионов долларов идет мимо бюджета с использованием государственного ресурса, бесконтрольно — это напрямую касается безопасности страны. И это не пара банок краски, и не ящик гвоздей, о которых кричал Лукашенко, пробиваясь к власти.

Чтобы доказать беспочвенность нападок на главу государства, прошу провести парламентское расследование. При этом следует выяснить такие вопросы: за счет чего наполняется, как его называют, президентский фонд, и куда используются его средства? Есть ли они, эти миллионы и миллиарды долларов, на счетах фонда, скрытые от экономики Беларуси, или это наветы противников?

Прошу Комитет государственной безопасности ответить народу, какие враги угрожают нашему государству и его суверенитету, когда в Европе идет мирная интеграция? Существует ли внутри государства опасность, которая может привести к утрате независимости РБ, и кто ее создает?

Прошу редакцию "Народной воли" ответить публично, возможно ли объединение в союз с Россией, которая, поставляя дешевый газ, на протяжении десяти лет вскармливала нам диктатора, о чем было цинично заявлено по РТР? Страна в центре Европы не должна отражать "газовые атаки", спровоцированные неразумной внешней политикой. Необходим отчет президента о том, куда он завел страну, а не ерничанье комментаторов по Белорусскому телевидению.

**Анатолий МАКУШИН, житель г.Гродно.**

# Страшная находка

*В Минске произошло очередное убийство с расчленением трупа*

Об этом стало известно вечером в минувший понедельник. А сообщил милиции о жутком преступлении водитель мусоровоза.

Водитель обслуживал участок жилых домов в районе улицы Брилевской. Как обычно, опорожнил контейнеры с бытовыми отходами и отправился разгружаться на Тростенецкую свалку. Во время разгрузки он обратил внимание на мешок, из которого торчали отрубленные на уровне колен две части ног человека.

Вечером того же дня минские оперативники приступили к так называемой отработке территории. Точно неизвестно, возле какого дома находился контейнер, из которого в мусоровоз попала страшная находка. Милиционерам предстоит обойти сотни квартир, задавая минчанам типичные вопросы: "Кто видел? Знает? Слышал?"

На Тростенецкой свалке начались поиски других частей тела. Появилась работа и у экспертов, которые имеют возможность даже по небольшому кусочку ткани определить пол, примерный возраст и другие данные жертвы, что, безусловно, окажет помощь в расследовании этого преступления.

Напомним, что в Минске в первых числах января опять же на территории Октябрьского района были найдены расчлененные останки мужчины, личность которого пока не установлена. Не исключено, что у этих жутких историй один "автор".

**Виталий ЧИЖОВСКИЙ.**

# У Жыткавічах сышлі з рэек лакаматыў і 5 пустых паўвагонаў

Днём 1 сакавіка ў Жыткавічах (Гомельская вобласць) пры выхадзе са станцыі грузавога цягніка маршрутам Калінкавічы — Лунінец сышлі з рэек лакаматыў і 5 пустых паўвагонаў.

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС Беларусі, у выніку аварыі пашкоджана 35 метраў пуцей. Пацярпелых няма. Магчымая прычына аварыі — расшырэнне чыгуначнага палатна. Затрымкі руху цягнікоў не адбылося.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

КРИМИНАЛ

# Цветет махровым цветом взяточничество

В средствах массовой информации Гомельщины регулярно появляются сообщения о выявленных фактах взяточничества. Создается впечатление, что берут все, от врачей и преподавателей до директоров предприятий. По словам начальника управления по борьбе с экономическими преступлениями УВД Гомельского облисполкома полковника милиции **Александра СОЛОВСКОГО**, в прошлом году выявлен 231 факт дачи и получения взяток, что на 13 процентов больше, чем в 2002 году.

В свою очередь суды области почти ежедневно рассматривают дела по преступлениям, предусмотренным статьей 430 Уголовного кодекса (получение взятки).

Приведу примеры таких дел, рассмотренных в последнее время.

Получая сравнительно невысокую зарплату, Тамара Зайцева решила повысить жизненный уровень семьи — за двести долларов оформила прописку в общежитие гражданки, никакого отношения не имеющей к мозырскому ГПТУ-68. Для этого пришлось в предоставленные документы внести заведомо ложные сведения о месте работы Р. и подделать подпись директора училища. Как говорят в народе, "своя рука — владыка".

Действия теперь уже бывшей заведующей общежитием стали известны правоохранительным органам — было возбуждено уголовное дело сразу по двум статьям УК — получение взятки и служебный подлог.

Суд Мозырского района и города Мозыря назначил виновной наказание в виде пяти лет лишения свободы в исправительной колонии общего режима с лишением права занимать руководящие должности в течение двух лет после отбытия срока. Ограничение по службе вряд ли огорчило 50-летнюю Тамару — аккурат после освобождения ей придется оформлять пенсию по возрасту.

Заместитель директора по рынкам Речицкой межрайбазы Виктор Ковтун нередко обещал индивидуальным предпринимателям переместить их торговые места на Центральном рынке райцентра "к черту на кулички".

Боясь потери выгодно расположенного места, торгаши приносили рыночному боссу дары — кто продукты, кто конфеты с "баксами". Дары оказались "данайскими" — погорел босс на взятках. Суд Речицкого района лишил мздоимца свободы на пять лет и на три года после отсидки запретил занимать исполнительно-распорядительные должности.

Житель той же Речицы, водитель С., попал в неприятную ситуацию — совершил ДТП, при котором серьезно пострадал пассажир. Проводивший предварительное следствие по возбужденному уголовному делу старший следователь местного отдела УСК МВД РБ Александр Тороп предложил помощь в благоприятном решении вопроса о прекращении уголовного преследования. Спасти горе-водителя могла тысяча "зеленых". Мать виновника автоаварии торговаться не стала и обратилась к сотрудникам, имеющим на погонах более весомые звезды, чем 30-летний следователь.

При передаче половины суммы теперь уже горе-следователя повязали с поличным.

Как лицо, занимавшее ответственное положение, он по приговору суда Речицкого района лишен свободы на восемь лет. После отбытия наказания в исправительной колонии усиленного режима ему на пять лет запрещено занимать должности на государственной службе, связанные с выполнением организационно-распорядительных функций.

**Михаил ОГОНЬКОВ.**

# Дзякуй, што не забілі

Да скону жыцця не забудзе лютаўскай камандзіроўкі ў падмаскоўныя Люберцы 48-гадовы шафёр полацкага прадпрыемства "Тэхнастром". Вяртаючыся ў Беларусь, ён спыніўся на Смаленшчыне, у наваколлі горада Ярцава, каб пераначаваць у машыне. Сярод ночы нехта пагрукаў у дзверы кабіны, і калі вадзіцель адчыніў яе, то атрымаў такі ўдар па галаве, што страціў прытомнасць.

Ачомаўшыся, палачанін убачыў, што знаходзіцца ў нейкім недабудаваным доме пад аховай двух незнаёмцаў у масках.

Злачынцы трымалі вадзіцеля ў палоне 12 дзён, пасля чаго завязалі яму вочы і вывезлі на бліжэйшую аўтамагістраль, дзе і пакінулі без грошай і дакументаў. Знікла і ягоная "дальнабойная" машына "МАН-17".

Не без цяжкасцяў дабраўся вадзіцель да роднага Полацка, дзе звярнуўся ў міліцыю, якая цяпер займаецца пошукамі зніклага грузавіка і начных злодзеяў.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ИРОНИЧНЫЕ ЗАМЕТКИ

# Кто в школьной столовой не ест и не пьет...

Много лет идет "гражданская война" за горячее школьное питание: местное население в лице родителей и школьников упорно сопротивляется и готово стоять насмерть в борьбе за свое законное право — есть или не есть.

Органы местного управления в лице *"рай"*оно и *"гор"*оно, прикрывшись щитом с чеканным девизом "За здоровое поколение", давит на директоров школ, которым жалко терять насиженные финские кресла и солидные зарплаты, а вот безответных, но за все ответственных "классух" не жаль: разносы, накачки, головомойки, лишение премий...

Да откупиться готовы "классухи" своими кровно заработанными от вашей "демьяновой ухи"! Ешьте сами слипшиеся синюшные макароны или холодный "плов" со свиным салом. Плов — блюдо восточное. Мусульманам Коран запрещает есть свинину, а белорусам надо запретить готовить то, к чему у них руки не готовы. И не издеваться над продуктами и людьми. Голодный сам найдет дорогу в столовую. Сытого — на веревке не затащишь. К 25 годам у "тутэйшых" девушек от макарон со свининой, запиваемых кипятком, хорошенько заправленным сахарком, фигуры похожи на хронически беременных: арбузные груди покоятся на тыквенных животах. Им бы немного поголодать. Голодом многие болезни без химии лечатся. Ну да ладно: пора нашей лицемерной во всех отношениях медицине ответ держать:

Почему в анамнезе больного вы ставите жирный плюс тем, у кого питание было домашним?

Почему ставите тощий минус тем, кто питался в общепите, из общего котла.

И второе (оно же третье, четвертое и десятое):

Чей злобный голос объявляет классных руководителей врагами детского здоровья?

Мы — матери, а не враги. За что?

Если развелось слишком много дураков на душу населения — мы не виноваты.

Осталось выйти на улицы с "боевыми листками", агитируя население за чиновничью идею.

Образец прилагается:

*Мальчик Володя горячее ел —*
*Ничем не болел, никогда не худел!*
*Наша "классуха" в столовой питалась,*
*В свои 75 красоткой осталась!*
*Кто в школьной столовой не ест и не пьет,*
*Тот скоро от рака желудка умрет!*

А теперь скажу уже всерьез: ну и вранье без меры!

**С уважением к редакции и уверенностью, что не напечатаете, —**

**Т.КАРЕЛИНА.**

*Минск.*

Народная Воля
3 САКАВІКА 2004 г.

# ЧТО ПРОИСХОДИТ В МИРЕ

## Найдена самая дальняя известная галактика во Вселенной

Астрономы из Швейцарии и Франции объявили о том, что им удалось открыть самую отдаленную от земли галактику. При помощи гигантского телескопа, установленного в Южноевропейской Обсерватории в Чили, ученым удалось получить изображение расположенной в созвездии Девы небольшой галактики, получившей название Abell 1835 IR1916.

Свет от нее идет до Земли 13,23 миллиарда лет, и нынешнее наблюдение позволяет получить самое раннее из возможных пока изображений материи "темных веков" — астрономической эпохи, следовавшей непосредственно за "Большим взрывом". Считается, что сам взрыв произошел около 13,7 миллиарда лет назад, и галактика Abell 1835 IR1916, отстоящая от него по времени на 470 миллионов лет, только начинает формироваться, так как лишь процесс "остывания" Вселенной после взрыва занял около 300 миллионов лет.

## Пентагон отправит в Ирак еще 18 тысяч военных

Пентагон отдал приказ о приведении в боевую готовность 18 тысяч служащих Национальной гвардии для отправки в Ирак. Как сообщается, приказ был направлен подразделениям 42-й пехотной дивизии Национальной гвардии Нью-Йорка, 256-й пехотной бригаде из Луизианы, 116-й кавалерийской бригаде из Айдахо и Орегона и 278-му кавалерийскому полку из Теннеси. В течение ближайших месяцев эти подразделения должны быть мобилизованы и подготовлены для отправки в Ирак, которая, как ожидается, состоится в конце нынешнего либо в начале следующего года.

## Сотрудники лондонского метро объявили 24-часовую забастовку

Профсоюз работников железнодорожного и морского транспорта Великобритании объявил о проведении 12 марта 24-часовой забастовки в лондонском метрополитене. Акция будет проведена в знак протеста против увольнения семерых сотрудников метрополитена, уличенных в употреблении спиртных напитков на рабочем месте. Напомним, что в начале декабря 2003 года семь обходчиков путей были уволены после того, как в служебной столовой на одной из станций были обнаружены 100 пустых банок из-под пива и пустая бутылка от виски.

По мнению профсоюза, сотрудники были уволены незаконно, так как у руководства метрополитена не было доказательств того, что они употребляли спиртное именно в рабочее время.

Планируется, что во время забастовки будет полностью или частично остановлено движение на пяти линиях метрополитена, которые ежедневно перевозят около 1,4 миллиона пассажиров

## Пол Маккартни снял мультфильм про белочку

19 апреля сэр Пол Маккартни выпускает на DVD короткометражный детский мультфильм "Шум тропического острова", на котором он выступает в роли автора сценария. Главный персонаж этого мультфильма — белка по имени Виррел, говорящая с сильным ливерпульским выговором, то есть с выговором самого Маккартни. Она, то есть он, улетает на воздушном шаре от охотников на тропический остров и находит там свою любовь — белку Вильгельмину.

Пол Маккартни обратился к мультипликации ровно 20 лет назад, в 1984 году, выступив в качестве автора сценария мультфильма "Руперт и лягушачья песенка". Режиссером выступил тот же Джефф Данбар. Мультипликационный дебют знаменитого музыканта оказался удачным — фильм получил награду британской киноакадемии BAFTA как лучшая анимационная короткометражка. Этому весьма способствовало, что специально для мультфильма Маккартни написал песню We All Stand Together, получившую потом награду. В новом мультфильме также прозвучит новая детская песенка, написанная специально для него.

Сам Маккартни в интервью по поводу выхода DVD своих мультфильмов рассказал, что с детства восхищался анимацией Уолта Диснея и пронес любовь к ней через всю жизнь. "Любовь к мультипликации — это детская черта, и во мне она, безусловно, есть".

## Фрадков готов стать «техническим премьером»

Михаил Фрадков, выдвинутый президентом России на пост главы правительства, оптимистично оценивает перспективы утверждения его кандидатуры в Госдуме. Он заявил, что не видит ничего негативного в определении премьера как технической фигуры при условии, что это слово является синонимом "технократа". "Я принял предложение президента. Я готов работать и смотрю на ситуацию с оптимизмом", — сказал Фрадков. Во вторник он рассчитывает начать консультации, предшествующие утверждению его кандидатуры в Госдуме. "Это потребует несколько дней, и по мере этих процессов будет идти активная работа по подготовке предложений о структуре правительства", — сообщил кандидат в премьеры.

"Жизнь покажет, я буду стараться делать все, чтобы справиться с поставленной задачей", — подчеркнул Фрадков, отметив при этом, что пока не готов обсуждать состав будущего кабинета министров. Он не стал отвечать на вопрос, продолжит ли работу в новом правительстве кто-то из нынешних министров.

## Hyundai построит новый завод в Словакии

Южнокорейская компания Hyundai Motor выбрала Словакию для строительства своего нового европейского завода. Стоимость проекта составляет около 870 млн.долларов.

Как говорится в заявлении Hyundai Motor, выпущенном во вторник, в конкурентной борьбе за строительство завода Словакия обогнала Польшу. Ожидается, что строительство завода начнется уже в этом году. На нем будут работать 2,4 тысячи сотрудников. Поступление продукции на рынок начнется в 2006 году. На этом заводе Hyundai Motor планирует выпускать 200 тыс. автомобилей марки Kia.

## Виталия Калоева поместили в психиатрическую клинику

Гражданин России Виталий Калоев, задержанный в Швейцарии по подозрению в убийстве диспетчера авиакомпании SkyGuide, находится в психиатрической клинике. Об этом заявила Юлия Федотова — представитель комитета родственников погибших в авиакатастрофе над Боденским озером детей из Башкирии. "Как нам сообщили, состояние здоровья Калоева тяжелое, он находится в психиатрической клинике", — сказала Федотова, не уточнив, откуда она получила такую информацию.

Россиянин Виталий Калоев был задержан 25 февраля, на следующий день после убийства авиадиспетчера компании SkyGuide 36-летнего датчанина Петера Нильсена. Именно он дежурил в ночь на 2 июля 2002 года, когда столкнулись российский Ту-154 "Башкирских авиалиний" и грузовой "Боинг" DHL. В той катастрофе Калоев потерял жену, сына и дочь.

ТАМ, У ГЕРМАНІІ...

# Чаму немцы вымушаны наступіць на горла ўласнай песні?

**Як ідуць рэформы ў Германіі? Якім чынам там збіраюцца адкрыць другое дыханне ў эканоміцы? Што з іхняга вопыту карысна нам? Чаму многія еўрапейцы не абыякавыя да рэфармавання ў ФРГ?**

*Вось пытанні, якія хвалююць многіх чытачоў. Частку адказаў на іх можна знайсці ў папярэдніх публікацыях. Цікаўным раю паглядзець артыкулы, апублікаваныя ў "Народнай волі" 27 лютага, 15 сакавіка, 18 красавіка, 13 лістапада 2002 года; 23 студзеня, 11 красавіка, 25 ліпеня, 7 жніўня, 28 кастрычніка, 20 лістапада 2003 года, у якіх паказаны асноўныя прычыны хваробы нямецкай эканомікі і шляхі яе лячэння.*

*Цікавасць да таго, што адбываецца ў Германіі, не выпадковая. Яна — самы галоўны ігрок у Еўропе. Добра напісала нядаўна пра гэта брытанская газета "Гардыян". "Адна краіна на кантыненце важнейшая за ўсе астатнія, — чытаем у ёй. — Гэта краіна Германія — самая вялікая, самая багатая, самая важная". Да сказанага варта дадаць, што германскія фінансавыя ўзносы ў еўрапейскія структуры — самыя вялікія. А раз так, дык усё, што ў ёй адбываецца, закранае многіх і цікавіць усіх.*

*Нямецкая эканоміка лічылася эталонам. Яна вырасла не толькі ў самую буйную гаспадарку Еўропы, але і стала трэцяй эканамічнай сілай у свеце. Асабліва падкупляла сваёй сацыяльнай накіраванасцю. Тут беспрацоўны жыве не горш, чым у іншых краінах рабочы. І вось раптам такі адладжаны механізм дае збой... Чаму? Якія прычыны?*

*Хіба такое можа не цікавіць? Як, дарэчы, і лекі ад крызісу, якія ўжо вызначаны і прымаюцца. З пачатку сёлетняга года ў Германіі дадзены старт рэформам. Вядома, іх ход не можа не цікавіць беларусаў. У нас ужо гадоў пятнаццаць гавораць пра неабходнасць рэформ, ды вось распачаць іх ніяк не рашаюцца, спасылаючыся то на нейкія абставіны, то на выбар свайго, беларускага шляху развіцця. Адсюль і нараджаецца неадольная цяга прыглядзецца да суседа, які рашуча ўзяўся за вырашэнне балючых праблем.*

*Такім чынам, давайце задаволім сваю цікавасць. Найперш яшчэ раз нагадаем, у чым сутнасць нямецкай эканамічнай хваробы.*



*Канцлер Шродэр партнёру па ўрадавай кааліцыі Фішэру: "Вось туды, наперад. Нас выратуюць там толькі рэформы".*

### 1.Дабро і зло

У Германіі, бадай, самая моцная ў Еўропе сацыяльная абарона працаўніка. Немцы доўга ганарыліся ёю. Але ў апошнія гады пачалі ўзнікаць праблемы. Некаторыя сталі жыць на дапамогу па беспрацоўі, ухіляюцца ад работ, якія прапаноўваюць на біржах працы.

Вядома, што сённяшняя эканоміка ведаў і высокай кваліфікацыі вымушае ўвесь час перавучвацца. Ды жадаючых павышаць свой узровень станавілася ўсё меней. А навошта? І так жывецца някепска.

Спецыялісты Еўрапейскага Саюза правялі ў 2002 годзе дэталёвы аналіз сацыяльна-эканамічных праблем і прыйшлі да важных высноў. У дакладзе Еўракамісіі сказана: *"У Германіі надта слабы дух прадпрымальніцтва. 90 працэнтаў апытаных ва ўзросце ад 18 да 34 гадоў не жадаюць рызыкаваць у сферы бізнесу і схіляюцца атрымліваць заробак у якасці наёмных работнікаў. Бо становішча наёмнага працаўніка з фінансавага пункту гледжання больш спакойнае і надзейнае, чым прадпрымальніка. А калі б ужо прыйшлося выбіраць сферу бізнесу, дык большасць сталі б адвакатамі, натарыусамі, маклерамі, аўдытарамі..."* Словам, толькі б не ісці ў сферу вытворчасці.

Цікава, што немцы, у прынцыпе, высока цэняць магчымасці, якія адкрывае бізнес. Яны паважліва ставяцца да бізнесменаў. Тры чвэрці апытаных лічаць, што краіна мае патрэбу ў вялікай колькасці дзелавых, ініцыятыўных людзей. Але пры гэтым 90 працэнтаў з іх заявілі, што яны не жадаюць браць на сябе ролю лідэра, бо камфортней адчуваюць сябе тады, калі кіруюць іншыя.

Жаданне жыць спакойна брала верх. Калі ў 60-я гады прадпрымальніцкай дзейнасцю займаліся 22 працэнты насельніцтва, дык у 2001 годзе толькі 10. Усё гэта вылілася ў сур'ёзнае тармажэнне эканомікі.

Як бачым, жыццё ў Германіі яшчэ раз пацвердзіла вядомы філасофскі вывад аб тым, што нават і дабро ўтрымлівае ў сабе зло.

У гэтай краіне турбуюцца аб добрым сацыяльным становішчы сваіх грамадзян, для чаго прадпрыемствы абкладваліся вялікімі падаткамі, каб мець сродкі на сацыяльныя даброты. У выніку ўскладнялася жыццё бізнесменаў, людзей з дзелавой хваткай, таму многія мянялі арыенціры. А тыя, хто заставаўся без працы, не надта шукалі яе, тым больш не імкнуліся перавучвацца. Так выспяваў крызіс.

Спецыялісты забілі трывогу. Дырэктар Бонскага інстытута эканомікі і грамадства Майнхард Мігель заявіў: *"У нас надта шчодрая сацыяльная сістэма. Напрыклад, сям'я з чатырох чалавек: муж, жонка і двое дзяцей — жывуць на сацыяльную дапамогу. У такім выпадку яны атрымліваюць грошай больш, чым сярэдні паліцэйскі, які ходзіць на службу штодня. Такая сітуацыя не зусім здаровая. Штосьці тут трэба мяняць. Бо многія сталі разглядаць сацыяльную дапамогу ў якасці мінімальнай зарплаты "за так". Яны мяркуюць, што могуць яе атрымліваць, нічога не робячы. Але пры такім падыходзе рынак не можа нармальна функцыянаваць".*

Відавочна, што пры такой сістэме людзям становіцца нявыгадна працаваць і плаціць пры гэтым вялікія падаткі. Куды выгадней атрымліваць сацыяльную дапамогу і падзарабляць у ценявым сектары. Многія і падаліся ў яго. Па прыкідках спецыялістаў, амаль 15 працэнтаў валавога ўнутранага прадукту Германіі выраблЯецца так званым "чорным рынкам", у якім занята прыкладна 6 мільёнаў рабочых, многія з якіх лічацца беспрацоўнымі.

Такі перакос стаў настолькі відавочным, што аб ім стаў пісаць еўрапейскі друк. Вось як каменціравала нямецкі эканамічны крызіс аўстрыйская газета "Курыр": *"Прылежныя, эканомныя, выдатныя арганізатары. Так гаварылі дзесяцігоддзі пра немцаў. Цяпер усё гэта не адпавядае рэчаіснасці. Дзесяцігоддзі нябеднага існавання ва ўмовах моцнай сістэмы сацыяльнай падтрымкі, падобна, канчаткова пазбавілі немцаў вышэйзгаданых якасцяў. Сацыяльная германская дзяржава дэманстравала небывалы цуд, які, аднак, стаў даваць збоі. Ды большасць палітыкаў, заклапочаных выключна сваім перавыбраннем, не хацелі гэтага бачыць. Таму так нялёгка даецца ім цяпер расставанне з ілюзіямі".*

Цікава атрымліваецца. Немцы марылі стварыць дзяржаву, якая ўзяла б на сябе клопат аб грамадзянах. І яны ажыццявілі сваю мару. Сам не раз бываў на Нямеччыне і бачыў, як жывуць там людзі. Нават пенсіі хапае для добрага жыцця і змястоўнага адпачынку. Але такія даброты ад дзяржавы адбілі ў вельмі многіх ахвоту да творчай працы, рызыкі ў сферы бізнесу. Вось такі другі бок медаля прагрэсу. Ён пераконвае: заўжды і ва ўсім трымайся "залатой сярэдзіны".

Усё больш станавілася відавочным: патрэбны перамены. Каб разварушыць грамадства, неабходна падрэзаць сацыяльныя даброты і за кошт гэтага зменшыць падаткі. Пікантнасць сітуацыі была ў тым, што пры ўладзе знаходзіліся сацыял-дэмакраты, іхні лідэр Герхард Шродэр сядзеў у крэсле канцлера Германіі. А менавіта ж яны, сацыял-дэмакраты, самыя актыўныя барацьбіты за сацыяльныя заваёвы працаўнікоў. Гэта стрыжань іхняй палітыкі. І вось цяпер, па іроніі лёсу, яны вымушаны былі, гаворачы вобразна, "наступіць на горла ўласнай песні".

У самой партыі разгарэлася вастрэйшая дыскусія. Большасць і слухаць не хацела аб наступе на сацыяльную сферу. Іхнія довады гучалі пераканаўча: гэта ж, маўляў, здрада інтарэсам партыі і электарата, хто тады будзе галасаваць за сацыял-дэмакратаў. Другія пераконвалі, што рашэнне вельмі балючае, але адкладваць рэформы далей ужо немагчыма. Быў скліканы спецыяльны з'езд партыі, на якім яе лідэр Шродэр рашуча заявіў: калі партыйцы не падтрымаюць рэформы, ён пакіне сваю пасаду. Пасля вострых дэбатаў большасць схілілася на бок лідэра.

Адсюль выцякае першы нямецкі ўрок для нас, беларусаў. Калі рэформы выспелі, адкладваць іх ажыццяўленне нельга, якімі б балючымі яны ні былі. Аб другіх нямецкіх уроках — у наступных публікацыях.

*(Працяг будзе.)*

**Іван МАКАЛОВІЧ.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Малітва за Беларусь

*Рукой Купалы напісана...*

Пад музейным шклом у Купалавым доме — усе прыжыццёвыя і пазнейшыя выданні Вялікага Песняра. Усе, акрамя самага апошняга — толькі што завершанага.

Дзесяць кніг поўнага, 9-томнага акадэмічнага Збору твораў класіка не змясціліся ў вітрыне, выстраіліся "плячо ў плячо" на асобным століку, і да іх, выпраменьваючых мяккае святло, так і карцела дакрануцца рукой. Дакрануцца — праз плынь дзесяцігоддзяў — да Яго рукі, агменю Яго сэрца, што падарылі беларусам, чалавецтву і вечнасці несмяротны і незаменны скарб.

— *Пад гэтымі вокладкамі ўпершыню змешчана ўсё вядомае на сёння, што занатаваў пяром ці алоўкам сам Купала,* — сказаў, адкрываючы ўрачыстую прэзентацыю, дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы **Сяргей ВЕЧАР.** — *Тут — канчатковыя варыянты і чарнавыя накіды вершаў, п'ес, публіцыстычных артыкулаў, эпісталярная спадчына, пераклады, дарчыя надпісы, службовыя і асабістыя дакументы. Тут — летапіс яго жыцця, гісторыя імклівага ўзлёту магутнага таленту да класічных вышыняў. І — трагічныя часы, калі Муза паэта змаўкала...*

Незвычайнай, знакавай падзеяй у нацыянальнай культуры і духоўным жыцці ўсяго грамадства назваў выданне Поўнага збору знаны навуковец, член-карэспандэнт НАН Беларусі прафесар **Міхась МУШЫНСКІ,** які ўклаў душу і апантанасць у "дырыжорства" вялікай калектыўнай працай, што доўжылася цягам дзесяці гадоў.

— *Гэта шчасце і радасць — быць сярод цудоўных людзей — калег па акадэмічным Інстытуце літаратуры, супрацоўнікаў Купалавага музея, архівістаў, тэкстолагаў і многіх іншых, хто быў захоплены і цалкам аддадзены адказнейшай справе. Хто шчыраваў не па ўказанні зверху, бо гэта быў не дзяржаўны заказ, а па загадзе ўласнага сэрца. Іх любоў да паэта, да Беларусі, якой жыў і дзеля якой тварыў наш Прарок, часам пераадольвала немагчымае. Дакрананне да яго ўнутранага свету, яго велічы натхняла і ўзбагаціла, узняло наша самаўсведамленне ў адстойванні нацыянальнай ідэі, каб Бацькаўшчына заняла свой "пачэсны пасад між народамі".*

Народны паэт **Ніл ГІЛЕВІЧ** згадаў эпізод, калі з кнігарні нёс дадому 24-томнае акадэмічнае выданне любімага А.Пушкіна (на той час афіцыйная прапаганда палівала брудам Ніла Сымонавіча за тое, што ён нібыта хоча "адлучыць" беларусаў ад багаццяў вялікай рускай культуры) і думаў: а калі ж мы, на Радзіме, будзем мець падобныя зборы ўласных волатаў слова?

— *І вось перад намі гэты цуд, гэтае свята, да якога прычашчаецца душа. Поўны, без цэнзарскіх уразанняў, Купала — неацэнны дар нашаму народу, сведчанне творчага патэнцыялу і патрыятычнага духу лепшай часткі сучаснай беларускай інтэлігенцыі. Па такіх грунтоўных выданнях цывілізаваны свет ацэньвае інтэлектуальную сталасць нацыі. А ў нас жа ёсць яшчэ і Колас, і Гарэцкі, і выдатнейшы, але ўсё яшчэ малавядомы паэт, празаік і публіцыст Змітрок Бядуля, многа іншых талентаў, што чакаюць свайго часу, каб паўстаць перад чытачом на поўны свой рост. Перакананы: не сілай, не зброяй, а стваральнай любоўю, дасягненнямі ў навуцы і культуры адродзіцца і ўзнімецца ў свеце наша Радзіма!*

Бліскучы майстар Купалаўскай сцэны **Віктар МАНАЕЎ** падзяліўся даўнім уражаннем ад знаёмства з тады яшчэ забароненай п'есай геніяльнага творцы — трагікамедыяй "Тутэйшыя". Тады нават не мог уявіць сабе, што яго запаветная мара сыграць ролю Мікіты Зносака спраўдзіцца з набыццём Беларуссю сваёй дзяржаўнасці. Але і зараз нестарэючы шэдэўр аб самым галоўным, хвалюючым — лёсе шматпакутнай Бацькаўшчыны — не ў міласці маючых уладу. Спектакль у Тэатры імя Купалы спрабавалі адлучыць ("адключыць") ад тых, каму ён прызначаны, каму адрасавана кожнае слова творцы.

Многія выдатныя яго творы, у савецкі час закратаваныя ў спецсховах, былі невядомыя шырокаму чытачу. А зараз вяртаюцца да яго ва ўсёй сваёй красе і чараўнічай сіле. Але... Гартаю 2-ю кнігу 9-га тома Збору і натыкаюся на цікавую звестку: калі ў 1908 годзе выйшаў у свет першы зборнік Купалавай паэзіі "Жалейка", газета "Минское слово" назвала яго творы ні больш ні менш як падпольнымі пракламацыямі, напоўненымі *"самой бесшабашной ложью и неизбежными призывами к бунту".* Маючыя ўладу і іх паслугачы ва ўсе часы ўкрыжоўваюць слова праўды і мужнасці. Яны баяцца яго і таму пераследуюць, не пускаюць да людзей. Ды яно прабіваецца праз усе заслоны і набывае неўміручасць у сэрцах сучаснікаў і новых пакаленняў — як сама зямля, што спарадзіла Прарока.

...Кожны радок, кожны эпізод, кожная драбніца, датычныя да вялікага жыцця, поўняцца глыбокім сэнсам і бязмерна дарагія нам, сённяшнім і заўтрашнім. Ну вось хоць бы гэты — быццам бы звычайны, празаічны дакумент 1921 года, падчас прэзентацыі перададзены Купалаўскаму музею знаным навукоўцам, супрацоўнікам Нацыянальнага архіва Беларусі **Віталем СКАЛАБАНАМ**. З Наркам-асветы, дзе працаваў паэт, у тагачасны Савет гарадской гаспадаркі Мінска прыйшла заява з просьбай *"...не отказать в выдаче сотруднику академич.центра Ивану Луцевичу (Янку Купале) двух сотен кирпича и двух возов глины для починки печи в его квартире по Захарьевской улице д.135, кв.1."* Так і ўяўляеш сабе разруху пасля грамадзянскай вайны, прамёрзлы, з разваленай печчу дом (там цяпер — Музей I з'езда РСДРП) — і паэта, які, нягледзячы ні на што, не выпускае пяра з заледзянелых рук. І на паперу кладуцца радкі вершаў і публіцыстычных твораў, якім наканавана стаць класікай і не састарэць, узнімаць дух суайчыннікаў у змаганні за лёс незалежнай і шчаснай Бацькаўшчыны.

Усе, хто браў слова ў той урачысты дзень, — старшыня Міжнароднага фонду Янкі Купалы прафесар **Вячаслаў РАГОЙША,** літаратуразнавец **Тэрэза ГОЛУБ,** старшыня Беларускага фонду культуры **Уладзімір ГІЛЕП** і іншыя, як і ўсе прысутныя, успрымалі падзею, з нагоды якой сабраліся, як глыбока асабістае і разам з тым маштабнае свята, што павінна стацца агульнадзяржаўным. І сышліся на тым, што выхад акадэмічнага збору варта адзначыць куды больш шырока і галосна, чым у музейных сценах, — чаму б не ў Купалаўскім тэатры, не толькі для вузкага кола? Такое выданне — каштоўнасць для народа, якому зараз, у зломны момант сваёй гісторыі, калі "стаім мы перад будучыняй нашай", можа як ніколі патрэбен Купала з яго паклічным, палымяным словам любові да Беларусі. І гэты Збор — не апошні дар: трэба рупіцца аб новых выданнях і перавыданнях — успамінаў аб Песняру, кнігі вершаў і публіцыстыкі "Жыве Беларусь!", Купалавай энцыклапедыі...

Настрой прасветленай, узрушанай радасці панаваў у Купалавым доме, дзе ў той вечар у выкананні заслужанай артысткі **Таццяны МАРХЕЛЬ** гучала крынічная народная песня, з якой узяў выток талент генія, а ў выкананні кіраўніка тэатра "Зьніч" **Галіны ДЗЯГІЛЕВАЙ** і маладых артыстаў Тэатра беларускай драматургіі — творы Прарока, якія бярэ з сабой у жыццёвую дарогу ўжо не адно пакаленне. Стаіўшы дыханне, слухалі ўсе даляцеўшы да нас у запісе голас самога Купалы. І — голас другога незабыўнага песняра — Уладзіміра Мулявіна. Ён спяваў славутую паэтаву "Малітву", і чутно было, як у выдатнага артыста ад усхваляванасці перацінае дыханне:

*Я буду ... маліцца ...*
*і сэрцам, і думамі,*
*Распетаю... буду маліцца душой,*
*Каб чорныя долі*
*з мяцеліцай шумамі*
*Не вылі над роднай зямлёй,*
*нада мной...*

Будзем маліцца і мы, паўтараючы выспеленыя ў трапяткой душы словы — і працаваць дзеля будучыні, да якой вялікі сын беларускай зямлі няўхільна вядзе свой народ.

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## *Аляксандр МЯДЗВЕДЗЬ:*

# «Збіраю сяброў трыццаць чацвёрты раз»

*З 19 па 21 сакавіка ў Мінску пройдзе традыцыйны турнір па вольнай барацьбе на прызы славутага беларускага асілка Аляксандра Мядзведзя.*

Журналіст "Народнай волі" патэлефанаваў Аляксандру Васільевічу, каб з першых вуснаў даведацца пра падрабязнасці будучага турніру.

— Як вы ведаеце, гэты турнір мае статус традыцыйнага, — гаворыць **Аляксандр Мядзведзь.** — Сёлетнія спаборніцтвы ўжо 34-я па ліку. Плануецца, што ўдзел у іх возьмуць спартсмены прыкладна з 30 краін свету.

Пасля ўзважвання, якое адбудзецца 18 сакавіка, атлеты будуць падзелены на вагавыя катэгорыі — 7 у мужчын і столькі ж у прадстаўніц прыгожай паловы чалавецтва. Спартсмены будуць жыць у сталічным гатэлі "Арбіта". А самі спаборніцтвы адбудуцца ў Лядовым палацы, што на вуліцы Прытыцкага. Дарэчы, заўзятараў вольнай барацьбы чакае сюрпрыз — уваход на турнір вольны.

**— А ці будзе праведзены ў гэтым годзе таксама традыцыйны турнір для юнакоў?**

— Так. Толькі распачнецца "Медзведзяня", а менавіта такую назву мае турнір для юных спартсменаў, на дзень раней, чым спаборніцтвы для дарослых спартсменаў, — 18 сакавіка. Тут будуць спаборнічаць каля 30 чалавек, чый узрост не перавышае 16 гадоў. Так што прыходзьце — будзем рады бачыць усіх.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**



### Дасье «Народнай волі»:

***Аляксандр Васільевіч Мядзведзь.*** *Нарадзіўся 16 верасня 1937 года. Трохразовы алімпійскі чэмпіён, шматразовы чэмпіён свету па вольнай барацьбе. Заслужаны майстар спорту. Заслужаны трэнер СССР.*

## Среда, 3 марта

### БТ

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.30, 08.30** "Деловая жизнь".
**08.45, 12.10, 14.45, 16.45, 00.05** "Моя страна".
**09.15** Сериал **"Мерлин Монро".**
**10.05, 20.05 "Светские хроники-2".** Сериал.
**11.05 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**12.25** Фильм **"Петровка, 38".** (Мосфильм).
**14.05** "На перекрестках Европы".
**15.10** Сериал **"Студенческая жизнь".**
**16.05** "5x5".
**17.05** "Маски-шоу".
**17.30 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**18.30** "Кстати".
**19.10** Сериал **"Мерлин Монро".**
**20.00** "Деловая жизнь".
**21.00** "Панорама".
**21.50** "Дело генерального. Черный кабинет".
**22.15** Комедия **"Баловень удачи".** (Польша, 1999 г.).
**23.55** "Чемпионы. Вероника Козловская".

### ОНТ

**07.00, 09.00, 18.00, 20.30, 23.40** Наши новости.
**07.05** "Наше утро".
**09.05, 19.05** Сериал **"Клон".**
**09.55** Сериал **"Отель исполнения желаний".**
**10.35** "Дом".
**11.20** "Не только о футболе".
**11.40** Дисней-клуб.
**15.15** "Город женщин".
**16.00** Сериал **"Берег мечты".**
**16.50** "Большая стирка".
**18.10** "Дом".
**20.00** Время.
**21.00** Сериал **"Отель исполнения желаний".**
**21.35** Сериал **"Любительница частного сыска Даша Васильева".**
**22.40 "Улица разбитых фонарей-5".** Сериал.
**23.55** "Форганг".

### РОССИЯ

**07.45, 19.55** Сериал **"Тайны следствия-3".**
**08.50** "Короткое замыкание".
**09.50, 23.55** Вести. Дежурная часть.
**10.00, 16.00, 19.00** Вести.
**10.20, 19.30** Местное время. Вести-Москва.
**10.50** "Что хочет женщина".
**11.50** Сериал **"Женщины в игре без правил".**
**16.10** Сериал **"Люди и тени".**
**17.05** Сериал **"Главные роли".**
**18.00** Сериал **"Зачем тебе алиби?".**
**19.50** Спокойной ночи, малыши!
**20.55** Сериал **"Женщины в игре без правил".**
**22.00** Вести+.
**22.20** Сериал **"Идиот".**
**23.25** Авторитет с Дмитрием Киселевым.
**00.10** Остросюжетный фильм **"Я сама".** (1993 г.).

### ЛАД

**06.30** Euronews.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** Площадь искусств.
**08.35, 22.05** Сериал **"Проклятый уютный дом".**
**09.35** "Сад мечты".
**10.05** "Между нами, женщинами".
**10.30, 21.15** Сериал **"Грешная Анхелика".**
**11.15** "Обычный необычный день".
**11.45** Сериал **"Большая перемена".**
**12.55** "Обычный необычный день".
**13.25** Мультфильмы.
**14.10** Мультиклуб.
**15.05** Сериал **"Зеркало, зеркала".**
**15.25** "Не зевай!".
**15.35** Тележурнал "Бум".
**16.05 "Неизвестный Наполеон".** Сериал.
**16.35** "Творцы. Моя муза Терпсихора".
**17.20** "Росчерк времени".
**17.35** Сериал **"Приключения Шерлока Холмса".**
**18.30** "Между нами, женщинами".
**18.50** Сериал **"Большая перемена".**
**20.15** Колыбельная.
**20.30** "Дела семейные".

### НТВ

**09.00, 11.00, 16.00, 18.00** Сегодня.
**09.25** Кулинарный поединок.
**10.20** "Страна советов".
**14.35** "Принцип домино".
**16.30** Сериал **"Она написала убийство".**
**17.35** Протокол.
**18.40** Сериал **"На вираже".**
**19.50** Сериал **"Свободная женщина-2".**
**21.00** Страна и мир.
**21.35** Красная стрела.
**21.45** Сериал **"Без следа: лунный свет".**
**22.50** Сериал **"На вираже".**

### СТВ+RenTV

**06.15, 18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.25, 15.40 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры".** Сериал.
**06.50** "Близнецы судьбы". Мультсериал.
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50, 20.00** "СТВ-спорт".
**08.05, 20.15** "Минск и минчане".
**08.20** "Технология".
**08.35** "Автопанорама".
**08.55** "Закон и криминал".
**09.15** Фантастический фильм **"Гладиатор-2000".** (Канада, 1998 г.).
**10.55** "Эти эксцентричные люди". Док.фильм.
**11.30** "Горячий лед".
**12.00** "Час суда".
**13.00** "Тайны черных летательных аппаратов". Док.фильм.
**13.50, 18.30 "Домик с собачкой".** Сериал.
**14.45 "ОБЖ, или Оранжевые Бьют Желтых".** Сериал.
**15.15** "Рыцари света". Мультсериал.
**16.00** Мультфильмы.
**16.20** "Тема дня".
**17.00 "Вовочка-2".** Сериал.
**17.30 "Агентство".** Сериал.
**18.15** "Планета людей".
**20.25** "Добрый вечер, малыш...".
**20.40** "Автопанорама".
**20.55** Мелодрама **"Осень в Нью-Йорке".** (США, 2000 г.).
**23.05** "Технология".
**23.15** "Бомонд". Док.фильм.
**00.00 "Секретные материалы".** Сериал.
**00.45** "Новости СНГ".

### 8-Й КАНАЛ

**17.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**17.45** Мистический триллер **"Сновидения".**
**19.10** К-видео — "Топ-8".
**19.30** Сериал **"Приключения Шерлока Холмса". "Знакомство".** 2-я серия.
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "Европа сегодня".
**21.30 "Дикарка".** Худ.фильм.

### ТВ ЦЕНТР

**04.45** "Настроение".
**07.45** Газетный дождь.
**07.55 "Страсти по Саломее".** Сериал.
**08.45 "Приключения мага".** Сериал.
**09.40** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 18.50, 21.00** События. Время московское.
**10.15** Телеканал "Дата".
**11.05** Особая папка.
**11.35** Народные средства.
**11.55** Квадратные метры.
**12.10** Петровка, 38.
**12.30** Деловая Москва.
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.30** Мода non-stop.
**15.00** Регионы: прямая речь.
**15.30** Ступеньки.
**16.00 "Тайны Ниро Вульфа".** Сериал.
**17.15** "Магия".
**18.00 "Разлученные".** Сериал.
**18.55** Пять минут деловой Москвы.
**19.00 "Приключения мага".** Сериал.
**20.00** Петровка, 38.
**20.25** Выборы-2004.
**21.40** Фильм "Заплыв слепых".
**22.25** Времечко.
**22.55** Фильм "Заплыв слепых".
**23.35** 25-й час. События. Время московское.
**23.55** Серебряный диск.
**00.15 "Воспоминания длиной в век".** Сериал.
**01.15** "Синий троллейбус".

### EUROSPORT

**09.30** Сноуборд.
**10.00** Фристайл.
**10.30** Олимпийский журнал.
**11.00** Футбол.
**12.00** Теннис.
**14.00** Евроголы.
**15.00** Хоккей на траве.
**16.30** Биатлон.
**18.00** Настольный теннис.
**20.00** Биатлон.
**21.30** Гольф.
**22.45** Триал.
**23.30** Футбол.
**01.30** Экстремальные виды спорта.

**3**
**сакавіка**

**СЕРАДА**
Усх. 7.53 Зах. 17.51
Даўж. дня 10.58
Першая квадра
28 лютага

**85 гадоў** з дня нараджэння М.І. Татура, беларускага перакладчыка
**70 гадоў** з дня нараджэння Г.С. Талкачовай, актрысы, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь

